*ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

# ПАГОНЯ

*№ 4 (103)* *27 студзеня – 2 лютага 1995 г.* *Кошт 100 рублёў*

*Беларусь у сэрцы Эўропы, і гатовая быць трамплінам кітайскаму скоку на эўрапейскі рынак* - ст. 4.

*Народная партызанка была амаль зьнішчанай аддзеламі чакіста Панкова-Бацi і ген. Капусты* - ст. 5.

*У залі разгублена разважалі, навошта Касі дзьве кароны, калі ў яе адна галава* - ст. 8.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.*

## АНДРЭЙ КОЗЫРАЎ ПРЫЯЗДЖАЎ, КАБ ПАРАФАВАЦЬ ДАГАВОР АБ ДРУЖБЕ

23-24 студзеня адбыўся афіцыйны візіт на Беларусь расейскага міністра замежных спраў Андрэя Козырава. Па выніках візіту спадар Козыраў і яго беларускі калега У.Сянько падпісалі консульскую канвенцыю, пратакол аб супрацоўніцтве двух МЗС і парафавалі беларуска-расейскі Дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве, які будзе падпісаны падчас будучага візіту ў Менск прэзідэнта Расеі Б.Ельцына. Тэрмін візіту на вышэйшым узроўні пакуль ня ўзгоднены.

Апроч перамоў са спадаром Сянько адбылася сустрэча Козырава з Аляксандрам Лукашэнка, Міхалам Чыгіром, сьпікерам парламента М.Грыбам і выканаўчым сакратаром СНД І.Каратчэнем. На выніковай прэс-канферэнцыі У.Сянько заявіў: "Сёньня ў беларуска-расейскіх адносінах намеціўся паварот да больш цеснага супрацоўніцтва.Мы разглядаем гэты візіт у кантэксьце падрыхтоўкі візіту на вышэйшым узроўні."

Па словах Козырава, беларускі прэм'ер у гутарцы з ім жадаў як хутчэй увесьці ў дзеяньне пагадненьне аб мытным саюзе, што магчыма раней чатырох месяцаў, якія адведзены на збліжэньне заканадаўстваў дзьвюх краін. У падтрымку сказанага міністрам замежных спраў Расеі У.Сянько згадаў, што Беларусь заўжды імкнулася да цеснага саюза з Расеяй, што відаць на прыкладзе перагавораў аб аб'яднаньні фінансавых сістэм Расеі і Беларусі. "Дзякуй Богу, мы да гэтага болей не вяртаемся", - сказаў кіраўнік беларускага МЗС, бо зараз відавочна, што гэта вяло да зьнішчэньня нашага суверэнітэту.

**СІМ**




## ПОДПІСЫ ДЭПУТАТАЎ ПЕРАДАДЗЕНЫ Ў КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД

Як паведаміў карэспандэнту, каардынатар парламенцкай апазіцыі Беларускага Народнага фронту Сяргей Навумчык, закончаны збор подпісаў дэпутатаў для звароту ў Канстытуцыйны суд.

20 студзеня спадар Навумчык перадаў старшыні КС В.Цыхіню 84 подпісы парламентарыяў пад лістом, у якім суду прапаноўваецца разглядзець канстытуцыйнасьць дзеяньняў прэзідэнта на манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі і абмежаваньню работы друку.

## КАНТАКТЫ З КРАІНАМІ БАЛТЫІ, МАГЧЫМА, ПАШЫРАЦЦА

Як паведамілі карэспандэнту ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі, сустрэча прэмьер-міністраў Латвіі і Беларусі адбудзецца на наступным тыдні, а ў пачатку лютага адбудуцца перагаворы прэзідэнтаў Беларусі і Летувы. Ёсьць спадзеўкі, што А.Лукашэнка і Бразаўскас падпішуць шэраг сумесных дакументаў у тым ліку рамкавы Дагавор аб супрацоўніцтве і пагадненьне аб дэлімітацыі мяжы.

## ЭЎРАПЕЙСКІ САЮЗ ЗМОЖА ВЫДАТКАВАЦЬ БЕЛАРУСІ 85 МІЛЬЁНАЎ ЭКЮ

Як стала вядома са слоў старшыні камісіі па эканамічным справам Эўрапейскага Саюза Хэніта Крыстоферсана, 16 студзеня ў Брусэлі міністры фінансаў ЭС абмеркавалі пытаньне выдаткаваньня Беларусі крэдыту. Спадар Крыстоферсон паведаміў, што патрэбы Беларусі ў фінансаваньні складаюць 300 мільёнаў даляраў, з якіх ЭС змог выдзяліць 85 мільёнаў ЭКЮ (102 мільёны даляраў).

**СІМ**

## ІСК ЯК СУПРАЦЬВАГА

Як стала вядома рэдакцыі "Пагоня", у старшыні Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў (БЗВ) Міколы Статкевіча зьявілася магчымасьць аднавіць службу ў Беларускім войску, з якога спадар Статкевіч быў звольнены летась.

Лідар БЗВ на Гарадзеншчыне Станіслаў Суднік пракаментаваў гэта так: "Цалкам верагодна, што М.Статкевіч будзе адноўлены на службе ў войску, бо пракуратура Рэспублікі Беларусь адшукала заяву спадара Статкевіча ў пракуратуру, дзе старшыня БЗВ заяўляе, што тагачасны Міністар абароны Рэспублікі Беларусь П.Казлоўскі звоўліў яго безпадстаўна".

На думку Станіслава Судніка, іск Міколы Статкевіча да П.Казлоўскага ўсплыў у супрацьвагу іску экс-міністра да прэзідэнта А.Лукашэнкі".

**/УЛ інф/**



## ПРАКАЦІЛІ

Дэпутаты Мастоўскага райсавета не прагаласавалі за кандыдатуру на пасаду старшыні райсавету спадара Казлова, якога, дарэчы, вылучыў асабіста старшыня аблвыканкаму спадар А.Дубко.

За кандыдата ад кіраўніка вобласці прагаласавалі ўсяго 3 дэпутаты райсавету, супраць 30 і 15 устрымалася.

Ранейшы старшыня райсавету спадар Апалонік зволены з пасады за нацыяналізм.

**С.Суднік**

## НА МІЖНАРОДНАЙ ВЫСТАВЕ БЕЛАРУСКІЯ ЭКСПАНАТЫ ДАВОДЗІЛАСЯ ХАВАЦЬ

У Берліне 20 студзеня быў адкрыты Міжнародны Зялёны Тыдзень. Гэта сельскагаспадарчая выстава адбываецца ў 60 раз, прычым ужо другі раз на ёй прысутнічае дэлегацыя з Беларусі. На тэрыторыі ў 50 тысяч квадратных метраў дэманструюцца прадукты харчаваньня і тэхналогіі іх вытворчасьці з 62 краінаў сьвету. Пры дапамозе Рэспубліканскага выставачнага цэнтру і нямецкай арганізацыі "Протрэйд", якая займаецца аказаньнем фінансавай дапамогі слабаразьвітым краінам, сваю прадукцыю дэманстравалі Слонімскі вінаробны і Бярасьцейскі лікёра-гарэлачны заводы, Барanavіцкі кансервавы харчкамбінат, гароднінасушыльны камбінат з Ганцавіч, Менскі электра-механічны завод, "Брэстплодовощпрод", Мазырскі солевыварачны завод і Наваполацкі хімкамбінат бялкова-вітамінных канцэнтратаў. У адрозьненьне ад астатніх удзельнікаў выставы, якія рознымі сродкамі імкнуцца прыцягнуць увагу наведвальнікаў да сваёй прадукцыі, некаторыя беларускія "экспанаты" даводзілася хаваць з-за іх вельмі нізкай якасьці і ад нямецкіх мытнікаў, каб пазьбегнуць аплаты высокіх падаткаў на ўвоз сельгаспрадукцыі ў Нямеччыну, якая, у адрозьненьне ад постсавецкіх краін, абараняе свой рынак.

**СІМ**

## ГЕНАДЗЯ КАРПЕНКУ Ў ГОРАДНІ НЕ ЧАКАЛІ

25 студзеня ў Гарадзенскім Палацы хімікаў адбылася сустрэча народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь, члена карэспандэнта А.Н. Беларусі, лідара Партыі Народнай Згоды Генадзя Карпенкі з насельніцтвам горада.

Гарадзенцы не выявілі вялікай зацікаўленасьці да аднаго з былых прэтэндэнтаў у Прэзідэнты Беларусі. Таму запоўнілі залу палаца толькі на трэць. Відаць адтаго спадар Генадзь, некранаючыся вострых праблемаў, агулам ахарактарызаваў палітычна-эканамічнае становішча дзяржавы як крытычнае, затым адказаў на нешматлікія пытаньні.

# ГРАМАДЗТВА

## У ЭФІРЫ – ГОРАДНЯ

- У нас на экраны выйшлі новыя перадачы "Тыдзень", "Кантакт". А 24 студзеня выйшаў першы выпуск абласной праграмы "Тэлевізійны кабінет улады", які прысьвечаны праблемам дзейнасьці мясцовай улады ўсіх узроўняў. Зьявілася праграма "Кола думак", якую вядзе спадар Валеры Задаля. Госьцем першай праграмы быў спадар Суднік - старшыня абласной Рады ТБМ, сустаршыня Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў. У наступнай перадачы браў удзел былы першы сакратар Гарадзенскага абкаму КПБ Сямёнаў, а 25 студзеня ў студыі была запісана размова са старшынёй Партыі народнай згоды Карпенкам. Ёсьць ужо дамоўленасьць запісаць дыялог з Аляксандраам Фядутам.

**- Калі існуе арыентацыя на інфармацыйнасьць праграм, то зь якімі крыніцамі інфармацыі вы супрацоўнічаеце?**

- Гэта вялікая цяжкасьць, бо паўстае грашовае пытаньне. Зараз створана Агенцтва тэлевізійных навінаў, дзе знаходзіцца вялікі банк кампутарных дадзеных, куды паступае інфармацыя не толькі ад беларускіх службаў, але і ад замежных інфармацыйных агенцтваў. Сёньня, па сутнасьці, скасаваны інстытут уласных карэспандэнтаў, і мы, у сваю чаргу, кожны дзень перадаем 2-3 сюжэты ў Менск. Будзем гандляваць сваёй інфармацыяй, пашыраць рэкламна-камерцыйную дзейнасьць, каб адпавядаць сучаснаму ўяўленьню аб сродках мас-медыа.

**- Набліжаюцца выбары ў новы Вярхоўны Савет. Як будзе працаваць аб'яднаньне ва ўмовах шалёнай патрэбы эфірнага часу?**

- Як робіцца ва ўсім цывілізаваным сьвеце, распрацоўваюцца пэўныя дакументы, палажэньні і кожная партыя ці рух атрымлівае вызначаны час эфіру. Усё гэта будзе вырашана кіраўніцтвам Белтэлерадыёкампаніі, і, мяркую, усе прэтэндэнты ў народныя дэпутаты будуць мець роўныя магчымасьці ў гэтым сэнсе.

**- Сёньня ўсё больш і больш чуецца размоў аб тым, каб надаць расейскай мове, разам з беларускай, статус дзяржаўнай. Вашае стаўленьне да дзьвюхмоўя?**

- Адназначна - адмоўнае. Я не стаўлюся адмоўна да рускіх людзей, тым больш, што ў мяне маці руская, але лічу, што нежаданьне авалодаць беларускай мовай - элементарная непавага да дзяржавы і народа Беларусі і, да таго ж, звычайная чалавечая лянота. Дзьвюхмоўе - калецтва для нашай нацыі, бо гэта аснова той "трасянкі", на якой зараз гаворыць большасьць насельніцтва. З-за гэтага нават журналісты-прафесіяналы ўжываюць русізмы, калькі, і мне крыўдна, што ў апошні час у рэспубліканскім тэлерадыёэфіры, асабліва ў забаўляльных перадачах, усё часьцей гучыць расейская мова. Але ж ёсьць, у рэшце рэшт, закон, які мы, як грамадзяне, павінны выконваць. Гэта і ёсьць прыкмета цывілізаванасьці нашых людзей і краіны ўвогуле.

**- Вашае стаўленьне да гісторыі з "белымі плямамі" у шэрагу рэспубліканскіх газет і звальненьнем рэдактараў "СБ" Асінскага і "Рэспублікі" Кернogі. Няма адчуваньня, што нехта назірае па-бацькоўску, каб у патрэбны час усё паставіць на месца?**

- Я ніколі не падзяляў пазіцыі рэдактара Асінскага і пазіцыя "СБ" як газеты мне не падабалася з-за адносінаў да беларускай мовы, дзяржаўнасьці, сімволікі. Але мне, як і ўвогуле беларускім журналістам, не зразумелы сапраўдныя матывы звальненьня спадара Асінскага. Можна было чакаць, што хучэй пакіне рэдактарскае крэсла кіраўнік больш сьмелага, на мой погляд, выданьня - "Народнай газеты". І ўжо зусім нечаканым было для мяне асабіста звальненьне майго былога кіраўніка, галоўнага рэдактара "Рэспублікі" Мікалая Кернogі - выдатнейшага журналіста і разумнага сумленнага чалавека. "Рэспубліка" - цэнтрысцкая газета, у якой друкаваліся лідэры БНФ, камуністаў, іншых партыяў. У газеты заўсёды была свая грамадзянская пазіцыя, якую станоўча ацэньвалі яе шматлікія чытачы. Сьведчаньне таму - той факт, што "Рэспубліка" - адзіная з агульна-нацыянальных газет, якая стала павялічваe свой наклад. Адчуваньня "апякунства" няма, але адбываецца незразумелыя, нелагічныя падзеі.

**- Вялікую ролю ў адраджэньні кожнай нацыі, на мой погляд, адыгрывае той факт, што існуе ўсьведамленьне аб сабе як аб нашчадках славутых, мужных, адданых сваёй радзіме людзей, герояў. Беларусам, падаецца, не стае такога усьведамленьня, такіх герояў.**

- Так, у нас амаль адсутнічае нацыянальная міфалогія. У расейцаў уяўленьне аб Сувораву, Данскім на ўзроўні міфаў. Там чалавек, які нават не ведае гісторыю, ведае гэтыя імёны. Звычайныя беларусы легендарных нацыянальных постацяў амаль не ўзгадваюць, хіба што Скарыну ды Каліноўскага. Тыя ж суседзі нашыя - літвіны. У нас была адна дзяржава - ВКЛ, агульная спадчына, якую яны, аднак, перапісалі сабе. Пагляньце, Міндоўг - гэта і беларускі князь, і, можа, у першую чаргу беларускі, бо ж навагрудзкі. Вялікі культурна-нацыянальны пласт нашае дзяржавы з навагрудзкіх узвышшаў апынуўся у сучаснай Летуве і вяртаць гэтую спадчыну трэба ў першую чаргу нам, журналістам. Нашыя перадачы "Гарадніца", "Пуцявіна" працуюць менавіта над гэтым.

**- Вашае стаўленьне да заявы некаторых расейскіх парламентарыяў аб уваходжаньні Беларусі ў склад Расеі.**

- Для кожнага сапраўднага грамадзяніна Беларусі гэта адназначна вырашанае пытаньне. І не дарэмна міністр замежных спраў Расеі А.Козыраў на сустрэчы з інтэлегенцыяй у Менску зяявіў, што "прыйшоў час перастаць гаварыць пра расейцаў і беларусаў у катэгорыі братоў і сясьцёр... Ёсьць іншае добрае паняцьце - суседзі."

**- Дзякуй за размову. Посьпехаў і плёну.**

**Гутарыў С.ЛАЎНІК.**

## АФІЦЫЙНА

У Гарадзенскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце адбылася абласная справаздачна-выбарчая канферэнцыя прафсаюза работнікаў аховы здароўя. У працы канферэнцыі бралі ўдзел - старшыня федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір Ганчарык і Міністр аховы здароўя рэспублікі Інэса Драбышэўская. Галоўная тэма размовы, якая гучала на канферэнцыі - гаротны стан медыцынскага абслугоўваньня на Беларусі і збядненьне асноўнай часткі насельніцтва.

**Г.ВАСІЛЕВІЧ**

У Горадні адбылася калегія Упраўленьня ўнутраных спраў Гарадзенскага аблвыканкама.

На калегіі былі падведзены вынікі аператыўна службовай дзейнасьці за мінулы год, а яны не суцяшальныя. Рост злачыннасьці назіраецца значна.

У абмеркаваньні накірункаў барацьбы з ростам злачыннасьці прыняў удзел Міністр унутраных спраў Рэспублікі Беларусь Юрый Захаранка, адказныя работнікі міністэрства, прадстаўнікі мясцовай улады.

**А.СТАШЭВІЧ**

## НЕ ТРЭБА СПАКУШАЦЬ СЯБЕ НАДЗЕЯЙ

**Пра посьпехі расейскіх рэформаў і няўпэўненасьць у заўтрашнім дні беларускіх прадпрымальнікаў карэспандэнт "Пагоні" размаўляе з прэзідэнтам зьнешнегандлёвай маскоўскай фірмы "Paula" Аляксандрам Сажовым.**

**- Спадар Прэзідэнт, што Вас найбольш уразіла на Гарадзеншчыне?**

- Я прабыў тут у Горадні роўна дзесяць дзён, езьдзіў па калгасах з мэтай закупкі беларускай бульбы для перапродажы яе ў Сібіры і Поўначы. Самае галоўнае, што прыкмеціў, гэта, я б сказаў, недобразычлівасьць простых людзей. У іх вачах нямое пытаньне: разбагацець захацеў? Маўляў, выгадуй ты сам гэтую бульбу і прадай. Буду шчыры, мяне такое стаўленьне да заможнасьці простага чалавека палохала. Здавалася, што вашым людзям нічога не хочацца: ёсьць хлеб, вада, соль, тая ж бульба, яшчэ ватоўка - і гэта ўжо поўны дастатак. Ці ж так гэта? Яшчэ ўразіла аморфнасьць вашых людзей. Яны абыякавыя, можна сказаць, да ўсяго. У адной вёсцы пачуў такое: "што мне нервы псаваць сабе, калі ўладнае кіраўніцтва ўсё адно зробіць па-свойму". Ведаеце, калі такі настрой у людзей, то хіба можна казаць пра перспектыву?

**- Вы малюеце вельмі ўжо змрочны малюнак, калі распавядаеце так пра народ, часткай якога зьяўляюся і я?**

- Прабачце, калі пакрыўдзіў, але такая рэчаіснасьць. У Расеі, калі не весь народ прагнуў рэформаў, то ва ўсялякім разе яго перадавая частка. І мы зрушылі такую магутную, сонную, зарыентаваную на заказы ваенна-прамысловага комплексу расейскую вытворчасьць, індустрыю. Расея ўжо падымаецца эканамічна. Стала больш заможным жыцьцё, у людзей зьявілася вера. Люмпен не байца багатага чалавека, што мае шыкоўны лімузін, целаахоўніка. Люмпен зразумеў, што гэта не чалавек са стрэльбай, а чалавек справы, што гэты чалавек ў пагоні за прыбыткам створыць заможным і яго, люмпена, жыцьцё. Менавіта такі настрой прэвалюе ў простага расейскага абывацеля. У вас жа ўсё наадварот. Усе чакаюць нейкага місію, што прыйдзе і зробіць у адзін момант усіх заможнымі. Такога не будзе, бо для таго, каб знайшоўся такі чалавек, трэба стварыць адпаведныя законы, я маю на ўвазе закон аб уласнасьці на зямлю, закон аб спадкаемцах, закон аб абароне прыватнай уласнасьці і многае іншае. Тады і ў вас на Беларусі зьявяцца людзі, што змогуць зрушыць ваш прамысловы карабель. Тое, што такія людзі ёсьць на Беларусі, гэта дакладна, бо некаторыя з іх зьяўляюцца партнёрамі ў маім бізнесе на Беларусі.

**- Вы зводзіце да таго, што патрэбны заканадаўчыя гаранты?**

- Так, заканадаўчая база - гэта гарант нумар адзін. Калі яе няма, то неабходна мець іншы гарант. Ім павінен быць Прэзідэнт. Беларусы маюць вось гэты другі гарант. Не ведаю, ці то праўда, ці то мана, але ваш Прэзідэнт часьцяком падкрэсьлівае думку аб тым, што ён не любіць камерсантаў. Калі гэта так, то ён не любіць чалавека справы. А гэта вельмі кепска, бо пры такіх адносінах да прадпрымальнікаў разьлічваць на перамены ў эканоміцы цяжка.

**- Што можа ў гэтым выпадку параіць маскоўскі дзелавы чалавек беларускаму бізнесмену?**

- Вашым бізнесменам неабходна стварыць моцны грамадзкі рух у абарону сваіх правоў. Дзеля справы нельга шкадаваць высілкаў, сродкаў, часу.

**- Прабачце, на Беларусі ёсьць партыя прадпрымальнікаў.**

- Можа яна і ёсьць, ды справы не відно. Не трэба спакушаць сябе надзеяй, трэба самаму ўпрэгчыся ў воз і цягнуць так, каб іншым было зайздросна. У вас на Беларусі пакуль што толькі размовы, а справа дзе? Паглядзіце, які працэнт камерцыйных структураў на прамысловасці, сельскай гаспадарцы, навуцы, культуры, адукацыі, у нацыянальным прыбытку ўвогуле. Параўнайце яго, я ўжо не кажу з краінамі Эўропы, а са сваімі суседзямі - летувісамі, латышамі, эстонцамі. Гэтыя лічбы вам дадуць дакладнейшы адказ на ўсё, што вас непакоіць. Нельга сядзець і чакаць, неабходна змагацца. Вам, як паветра патрэбны стрэсы, патрасеньні, радыкальныя рашэньні, накшталт тых, што перажыла Расея пачынаючы з 1991 года. Адсутнасьць відавочных зьменаў нараджае няздобры, рахманы спакой, якім вы чамусьці так любіце пахваліцца. Не абудзіцеся, то атрымаеце на палітычнай мапе краіну з назваю "Belarus", дзе ўсё будзе належыць не народу гэтае дзяржавы, а тым, хто сапраўды марыць аб лепшым жыцьці, хто разумна і своечасова робіць для гэтага адпаведныя высілкі.

**Распытваў Г.АСТРОЎСКІ.**

## ВІКТАР КУЧЫНСКІ НАБЫЎ ХАЛОДНУЮ ЗБРОЮ

Падчас афіцыйнага візіту ў Кітай прэзідэнта А.Лукашэнка некаторыя члены прэзідэнцкай дэлегацыі ў якасьці сувеніраў набылі шаблі. Першым набыў халодную зброю памочнік прэзідэнта па асобым даручэньням В.Кучынскі.

Спадар Кучынскі вядомы больш тым, што лакалізуючы бойку п'яніцаў на віцебскім торжышчы з рэвальверам у руцы крычаў: Імем прэзідэнта спыніцеся!

Пазьней спадар Кучынскі згадаў, што гатовы абараняць прэзідэнта не толькі з рэвальверам, а нават і з гранатамётам у руках. Што ж з'явілася і дадатковая магчымасьць пусьціць да справы і халодную зброю.

## НА СЬВЯТКАВАНЬНЕ ЗАПРОШАНЫ РАСЕЙСКІЯ ВАЙСКОЎЦЫ І ФАШЫСТЫ

Лідэр віцебскіх казакаў спадар Афанасьеў запрасіў узяць удзел у сьвяткаваньнях, звязаных з пяцідзесяцігоддзем 103-й паветрана-дэсантнай дэвізіі шэраг грамадзян Расеі. У тым ліку міністра абароны Расеі П.Грачова, яго намесьнік Б.Громаў, атаман расейскіх казакаў Філін, а таксама лідэр расейскага нацыянальнага адзінства А.Баркашоў і апальны генерал А.Макашоў.

Усе вышэйзгаданыя асобы даслалі віншаваньні ў сувязі з юбілеем. Спадар П.Грачоў паведаміў, што няздолее наведаць Віцебск у сувязі з падзеямі ў Чачне.

**СІМ**

## АГІДНА ЗА ДЗЯРЖАВУ, ЗА НАРОД

Больш як за чвэрць веку вайсковай службы аб'ездзіў бадай усю былую краіну Саветаў, і паўсюдна чуў мову таго народа, які засяляў гістарычна гэтую тэрыторыю. Пакуль лёс не прывёў мяне на Беларусь, дзе нават на вёсцы незаўсёды чуў беларускую мову, а дзякую сумесь расейска-беларуска-польскіх слоў.

Калі была абвешчана незалежнасьць Беларусі, прыняты Закон аб дзяржаўнай мове, з'явілася надзея, што і на Беларусі загучыць родная мова. Час ідзе, а справы ні з месца. Толькі шыльды афіцыйных будынкаў, ды шыкоўныя вуглавыя штампы з Пагоняй на афіцыйных паперах, а змест напісанага на паперы на рускай мове.

Чаму гэта, чаму не выконваецца Закон аб мове, чаму гэтую мову ганьбяць, бэсьцяць? Чаму са сьлязьмі ўзіраюцца за мяжу, ды не бачаць, што там, у любой дзяржаве пануе дзяржаўная мова, што там кожны эмігрант ў першую чаргу бярэцца за вывучэньне дзяржаўнай мовы.

Я рускі, мне ўжо шосты дзесятак гадоў, на Беларусі толькі адзінаццаць год. Але я адчуваю сябе грамадзянінам Беларусі, адчуваю абавязак вывучаць дзяржаўную мову. Вывучаючы самастойна, для гэтага выкарыстоўваю ўсе магчымасьці.

Агідна за дзяржаву, у якой не гучыць дзяржаўная мова ні на вуліцах, ні ў працоўных калектывах, ні ў афіцыйных установах, ні з вуснаў прэзідэнта, ні ў дакументах. Ні ў якой дзяржаве сьвету недапушчальна гэтакае, чаму ж гэта магчыма на Беларусі?

**Л. Болатаў**
**г. Горадня**



# СУМЕЖЖА

## ЛЕТУВА

У мінулы чацьвер вечарам у Брусэлі завяршыўся першы рабочы раўнд перамоваў паміж Летувою і СЭ аб асацыяваным членстве.

Асацыяцыя з Саюзам Эўропы створыць для Летувы ўмовы для поўнай інтэграцыі ў палітычныя, эканамічныя і абаронныя структуры кантынента, забясьпечыць пастаянны палітычны дыялог паміж Летувой і СЭ. Сакратар міністэрства замежных спраў Альбінас Янушка, які кіраваў дэлегацыяй на гэтых перамовах, назваў першы раўнд іх агенцтву БНС "пасьпяховым".

Канстатавана, што па большасьці пытаньняў думкі бакоў поўнасьцю супадаюць, а выяўленая розьніца ў пазіцыях - пераадольная. Па словах кіраўніка дэлегацыі ў Брусэлі падцьвердзілася надзея, што для падрыхтоўкі дагавора павінна хапіць 2-3 раўнды перамоваў, і ўжо навесну дагавор будзе падпісаны.

* * *

Летува вітае далучэньне Рэспублікі Беларусь да праграмы НАТА "Партнёрства дзеля міру". Таксама ўрад Летувы мае надзею, што далучэньне паспрые сталеньню дэмакратычнага грамадзтва на Беларусі, дапаможа развіць дэмакратычны кантроль за Ўзброеннымі Сіламі, што ў сваю чаргу дазволіць распачаць супрацоўніцтва ў сьферы падтрыманьня міру з іншымі Эўрапейскімі дзяржавамі.

Да таго ж, у МЗС Летувы лічаць, што ўдзел Беларусі ў праграме "Партнёрства дзеля міру" ўзмацніць паразуменьні і давер паміж краінамі суседкамі.

* * *

Апошні тыдзень на Летуве быў часам напружаных абмеркаваньняў, як адстаяўшы палітычную незалежнасьць дамагчыся эканамічнай? Найбольш востра стаяць два пытаньні - гэта фінансы і энэргетыка. Сталы рост цэнаў, нягледзячы на прывязку літа да даляра, паставіў пытаньне аб магчымай дэвальвацыі літа. Апазіцыя абвінавачвае ўрад у неабгрунтаванай эмісіі папяровых грошай, у штучным вынесьці даляра з інвестыцыйнага працэсу ўнутры краіны і патрабуе найхутчэйшага скасаваньня палітыкі неадказнага кіраваньня. Ўрад, наадварот, сьцьвярджае, што ніякай дэвальвацыі ня будзе на працягу прынамсі некалькіх год. Як аргумент прыводзіць прыклад Эстоніі, дзе інфляцыя з часу ўвядзеньня прывязанай да германскай маркі кроны ўтрая вышэй, чым на Летуве, але ў Эстоніі ніхто не ўздымае пытаньня аб дэвальвацыі.

Апазіцыя, як заўжджы ў такіх выпадках, апелюе да жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва, які па ацэнках апазіцыі зьніізіўся за час кіраваньня сёньняшняга ўраду 3,3 разы. Ўрад у сваю чаргу адстойвае агульнадзяржаўныя інтарэсы: маўляў падзеньне стымулюе інвестыцыі з Захаду.

Палеміка ў самым разгары, відаць, што рана яшчэ гаварыць пра канчатковы вынік.

Што датычыць энергетыкі, то тут лёд нарэшце быццам бы скрануўся. Днямі адбыўся устаноўчы сход членаў акцыянернага таварыства па будаўніцтву экспартна-імпартнага нафтавага тэрміналу ў Буцінге, на паўночна-летувіскім узмор'і. Прынята рашэньне аб заснаваньні акцыянернай кампаніі са статутным фондам 10 мільёнаў літаў.

## СХОВІШЧЫ ЁСЬЦЬ - КЛІТЕНТАЎ МАЛА

"Сховішчы банкаў сёньня практычна не адрозьніваюцца ад тых, што былі ў міжваеннай Летуве. Па свайму абсталяваньню яны значна саступаюць заходнім, дзе амаль усе аперацыі выконвае электроніка. Але гэта не азначае, што сейфы летувіскіх банкаў ненадзейныя",- сьцьвярджае старшыня праўленьня банку "Вільняўс банкас" Зэнанас Грыгашайціс.

Амаль ва ўсіх буйнейшых банках Летувы ёсьць спецыяльныя сховішчы, дзе кліенты могуць трымаць грошы, дакументы, каштоўнасьці. Індывідуальныя сейфы закрываюцца і адчыняюцца толькі двума ключамі. Адзін знаходзіцца ў кліента, другі - у банку. Ёсьць і запасныя ключы. За страту ключа кліент плаціць вялікі штраф.

У індывідуальных сейфах забараняецца трымаць наркотыкі, выбуховыя і радыёактыўныя рэчывы. Для выяўленьня апошніх ёсьць спецыяльныя дазіметры, для пошукаў наркотыкаў - спецыяльна падрыхтаваная сабака.

Аплата за арэнду сейфа (у залежнасьці ад яго памераў) у банку "Вільняўс банкас" складае 10-25 літаў (да 6 долараў). Будынак, дзе ён цяпер разьмяшчаецца, пабудаваны ў адзін год у 1936 годзе. Тады ж было абсталявана і сховішча. Аналагічны будынак збудаваны тады і ў Познані і там цяпер таксама знаходзіцца банк.

У сховішчы "Вільняўс банкас" была абсталявана сістэма, якая дазваляла ў выпадку рабунку затапіць памяшканьне. Цяпер яна не працуе.

Сховішча абсталявана на глыбіні 3 метраў пад зямлёй. Таўшчыня кажуха - 0,5 метра. У выпадку выбуху ён можа даць толькі трэшчыну.

Галоўныя дзьверы сховішча яшчэ даваенныя. Яны выкананы з лягіраванай сталі і важаць 7,5 тоны. У дзьвярах два механічныя замкі і адзін кодавы.

У банку каля 400 індывідуальных сейфаў. Пастаянных кліентаў - паўтары сотні.

Банкіры разьлічвалі, што захаваньне рэчаў у сейфах будзе папулярнай паслугай. Аднак нават сёньняшні неспакойны час яшчэ не прывучыў людзей па-сапраўднаму клапаціцца пра сваю маёмасьць.

**Уладзіслаў СТРУМІЛА.**

## ПОЛЬШЧА

Чарговы тыдзень не прынёс польскай палітыцы нічога, апроч блытаніны. Старыя праблемы ня высьвятліліся, а напружаньне ня зьменьшылася. Здаецца, што тое, наколькі сур'езна прэзідэнт Валэнса думае пра роспуск Сэйму, які апошнім часам зрабіўся настолькі герметычным, і займаецца амаль толькі і выключна пытаньнямі асабістага існаваньня, ужо перастала быць пытаньнем нумар адзін.

* * *

З усіх новых тэмаў цяжка знайсьці найважнейшую. На першы план выйшлі справы даволі істотныя, якія заслугоўвалі б на акрэсьленьне "тэмы тыдня", калі б ня тое, што вайна паміж прэм'ер-міністрам Вальдэмарам Паўлякам ды прэзідэнтам Лехам Валэнсам яшчэ не завяршылася, а некалькі "сілавых" міністраў затаіўшы дыханьне чакаюць на новых шэфаў.

Сёньня ўжо амаль немагчыма ацаніць стан суадносінаў у вярхах польскае ўлады. Датычыць гэта як урадавае кааліцыі, як ўнутранай ўзаемасьці, так і ўзаемадзеяньняў паміж ёй ды прэзідэнтам Лехам Валэнсам. Прычынілася да гэтага адстаўка міністра замежных справаў Анджэя Алехоўскага. У цэнтры ўвагі пытаньне, што тычыцца стратэгічных напрамкаў польскай замежнай палітыкі, што можна было б зьвесьці да простага пытаньня: "Хочам мы быць у НАТА й Аб'яднанай Эўропе, ці не?" Неяк само сабой выйшла навонкі тое, што ўрадавая кааліцыя ня мае выразнага плану далейшых дзеяньняў, прычым датычыць гэта ня толькі замежнай палітыкі. Беручы пад увагу тое, што месяцы супольнае працы навучылі палітыкаў скідваць усе свае праблемы й клопаты на прэзідэнта, а таксама тое, што падобнай таактыкай ня грэбуе й Лех Валэнса, можна прыблізна ўявіць сабе стан палітычных гульняў на найвышэйшых паверхах будынку польскай палітыкі.

Некалькі дзён запар польскія газэты пісалі пра скандал вакол пастановы Найвышэйшага Суду Польшчы наконт парушэньня журналісцкай таямніцы. Загалоўкі газэтаў зьвярталі ўвагу на парушэньне свабоды слова, што, прызнацца, схіліла мяне да пэўных беларускіх аналогіяў, але, калі не займацца абагульненьнямі, польскае абмежаваньне слова мае зусім няшмат супольнага з беларускім. Польскі Найвышэйшы Суд сапраўды выдаў пастанову, паводле якой журналісты мусяць выяўляць свае крыніцы інфармацыі, калі гэтага патрабуе пракурор, хаця закон аб прэсе выразна падкрэсьлівае права журналіста да захаваньня гэтай таямніцы.

Спрэчнасьць паміж двума юрыдычнымі актамі й была гэтак гучна акрэсьленая парушэньнем свабоды слова. Польскія журналісты паабураліся, паабураліся, ды й суцішыліся, зразумеўшы, што з Найвышэйшым Судом няма чаго спрачацца, а таксама тое, што яны заўжды могуць разлічваць на Эўрапейскую Канвэнцыю, якая ў гэтым сэнсе акрэсьлівае сітуацыю вельмі дакладна, і адназначна сьцьвярджае, што журналісты зусім не абавязаныя выяўляць крыніцу інфармацыяў.

* * *

Закранаючы прававыя тэмы не выпадае не прыгадаць пра ўваход у жыцьцё новага Псыхіятрычнага Закону Польшчы, які ў першыню дасьць хворым гарантаваныя правы. Хворы будзе зьмяшчацца ў псыхіятрычны шпіталь толькі тады, калі ён сам дасьць на гэта пісьмовую згоду, а прымусовая шпіталізацыя будзе магчымая ў выпадку, калі хворы пагражае жыцьцю іншых людзей. Закон прадбачае таксама адыход ад ізаляцыйнага лячэньня, з увагі на яго высокія кошты ды нізкую эфэктыўнасьць. Камянтуючы ўваход у жыцьцё новага Закону праўрадавая газета " ЖЭЧПАСПАЛІТА " ўзгадвае Эўрапейскую Канвенцыю Правоў Чалавека, а таксама пра тое, што ў дзяржавах, якія яе ратыфікавалі, толькі суд можа вырашыць пытаньне аб пазбаўленьні свабоды грамадзяніна. Дарэчы Польшча, парушыла гэтыя правілы, хаця й падпісала Канвенцыю.

* * *

Пра візыт Аляксандра Лукашэнкі ў Кітай напісала фінансавая газета "Нова Эўропа", так , што абедзьве дзяржавы выказаліся за супрацоўніцтва ў ліквідацыі сусьветных арсеналаў атамнай зброі, адначасова падпісаўшы ваенныя кантракты на 62 мільёны амэрыканскіх даляраў. "Беларусь ляжыць у сэрцы Эўропы, і яна гатовая быць трамплінам для кітайскага скоку на эўрапейскі рынак" - засьведчыў Аляксандр Лукашэнка падчас візыту, а гэнымі словамі " Нова Эўропа" завяршае інфармацыю пра дадзеную сустрэчу. Апошняе выказваньне, а таксама тытул польскай публікацыі: "Кітайскі шлях Лукашэнкі", зьбіваюць польскага чытача з панталыку: сэрца якой Эўропы меў на ўвазе беларускі прэзыдэнт, і як Беларусь можа быць трамплінам для Кітая, калі сама зьбіраецца ісьці кітайскім шляхам? Цалкам магчыма, што беларускі чытач лепей разумее словы свайго прэзыдэнта.

**Аляксандр Айна**

## ЎКРАІНА

### КІЕЎ

21 студзеня, даючы каментар да намеру Дзярждумы Расеі аб унясеньні ў парадак дня пленарнага паседжаньня пытаньня аб дэнансацыі белавежскіх пагадненьняў, экс-саветнік прэзідэнта Украіны па зьнешняй палітыцы Антон Бутэйка паведаміў, што гэты факт "сьведчыць аб тым, што імперская палітыка Расеі працягваецца". У сувязі з гэтым, лічыць А.Бутэйка, размова можа ісьці аб эканамічным саюзе Ўкраіны з Расеяй, але ніяк не аб палітычным.

***

Прэс-служба Народнага Руху Ўкраіны распаўсюдзіла 21 студзеня дзьве заявы гэтай арганізацыі. У першай Прэзідэнту Ўкраіны прапаноўваецца ў сувязі з крызісам у Чачні вывесьці з тэрыторыі Ўкраіны расейскія войскі, бо яны, мяркуючы аўтары, уяўляюць сабой пагрозу суверэнітэту Ўкраіны. Таксама прынята заява з патрабаваньнем да Генеральнай пракуратуры і Службы Бясьпекі Ўкраіны правесьці расьследаваньне дзейнасьці пракамуністычных груповак, якія выступалі за правядзеньне збору подпісаў за адраджэньне СССР.

***

Адбылося Народнае Веча з нагоды гадавіны з дня аб'яднаньня Ўкраінскай Народнай Рэспублікі з Заходне-Ўкраінскай Народнай Рэспублікай у адзіную дзяржаву. Арганізатары акцыі, якая адбылася 22 студзеня, - Народны Рух Украіны, Украінская Рэспубліканская партыя, Дэмакратычная партыя Ўкраіны, Кангрэс Украінскіх нацыяналістаў і інш. Прыняты зварот з патрабаваньнем "спыніць генацыд чачэнскага народу". Некаторыя з выступоўцаў патрабавалі выхаду Ўкраіны з СНД у знак пратэсту супраць імперскай палітыкі Расеі.

### ХАРКАЎ

21 студзеня група ветэранаў будаўніцтва сацыялізму ў СССР распаўсюдзіла заяву, прысьвечаную дню памяці Ўладзіміра Леніна. У заяве гаворыцца, што "Ленін і зараз жывей за ўсіх жывучых дэмакратаў і яго ідэі перажывуць яшчэ не адно пакаленьне буржуазных ідэолагаў". "Наш Ільіч захаваны ў Маўзалеі па інтэрнацыянальнаму звычаю - да яго бесьсмяротнага цела павінен сьцякацца працоўны люд з усіх краін сьвету", - гаворыцца ў заяве. У тым, што былыя натоўпы да Маўзалея не сьцякаюцца, ветэраны вінавацяць "жыда-масонскі зброд", які, на іх думку, можа тайна выкрасьці Ільіча "у сваіх нізьменных інтарэсах".

**"Э-Х"**

## РАСЕЯ

### МАСКВА

"Рэальная пагроза фашызацыі Расеі накіроўваецца ад бліжэйшага атачэньня прэзідэнта Расеі!", - заяўляе ў сувязі з падзеямі ў Чачне маскоўскі клуб "Незалежнасьць". "Варварство и коварство, грубая ложь и цинизм, проявляемые в ходе военных действий российскими властями" дазваляюць з упэўненасьцю сказаць аб "непасрэднай пагрозе фашыстоўскага перароду ва ўладных структурах Расеі", паведамляецца ў распаўсюджаным 23 студзеня звароце Клуба да ўдзельнікаў міжнароднага антыфашысцкага форума. Аўтары звароту заклікаюць удзельнікаў форума "зьвярнуцца да айчыннай і сусьветнай грамадзкасьці з перасьцярогай аб пагрозе фашыстоўскага перароду правячага сёньня ў Расеі рэжыму" і патрабаваць ад палітыкаў і грамадзкіх дзеячоў аказаньня максімальнага ціску на расейскія ўлады.

### УФА

Ваеннаслужачыя, прызваныя з Башкірыі, ня могуць несьці службу ў зонах баявых дзеяньняў на тэрыторыі Расеі. Мінавіта так гучыць ўказ аб абароне правоў башкірскіх ваеннаслужачых , накіраваных у Чачню. 23 студзеня ўказ падпісаў прэзідэнт рэспублікі Муртаза Рахімаў. Згодна гэтаму дакументу, для аказаньня дапамогі ваеннаслужачым і дазнаньня абставін іх сьмерці, пілону і прапажы бяз вестак у Чачне ствараецца спецыяльная ўрадавая камісія. Бацькам прызваных з Башкірыі ваеннаслужачых даецца магчымасьць дармовага праезду да месца падзей. Усе звязаныя з гэтым разыходы аплочваюцца з бюджэту рэспублікі. Сваякі загінуўшых атрымаюць кампенсацыю ў памеры 5 мільёнаў рублёў. Да 1 чэрвеня мяркуецца заключыць дагавор з міністэрствам абароны Расеі аб тым, каб башкірскія прызыўнікі несьлі службу толькі на памежных з рэспублікай тэрыторыях.

### МАСКВА

24 студзеня ў 12 гадзін раніцы ў мрамарнай зале цэнтральнага дома журналістаў адбыўся "круглы стол" з удзелам прадстаўнікоў міністэрства абароны, мус, ураду расеі, а таксама дэпутатаў і журналістаў, працаваўшых у Чачне падчас апошніх падзей.

"Круглы стол" праводзілі расейскі і маскоўскі саюзы журналістаў, а таксама ФОНД абароны галоснасьці. Яго тэма - "Рэальна існуючыя абмежаваньні дзейнасьці журналістаў і правамоцнасьць ці неправамоцнасьць гэтых абмежаваньняў".

У працы "круглага стала" узялі ўдзел: В.Варажцоў (ЦГС МУС), Грышын (намесьнік кіраўніка прэс-службы ўраду Расеі), Юшанкоў, Грызуноў, Бағданаў, Шчарбіна, Сіманаў, Панфілаў (Фонд абароны галоснасьці), А.Рыхтар (Расейска-амэрыканскі інфармацыйны прэс-цэнтр), Сяргей Шахрай і іншыя.

У распаўсюджаным 23 студзеня паведамленьні Фонда абароны галоснасьці адзначаецца: "Ваенныя лічаць, што маюць права дазволіць або не дазволіць журналістам працаваць, у прыватнасьці, МУС спасылаецца пры гэтым на ст. 29 Закона аб унутраных войсках, прынятага ў 1992 годзе. Але няма закону, рэгламентуючага працу журналіста на вайне, таму з намі размаўляюць з пазіцыі сілы".

### САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ

21 студзеня ў Санкт-Пецярбургу ў Доме журналістаў адбыўся грамадзкі сход, прысьвечаны трагічным падзеям у Чачні. У мерапрыемстве прынялі ўдзел прадстаўнікі каля 20 грамадзка-палітычных і грамадзкіх арганізацыяў горада. Удзельнікі прынялі дзьве рэзалюцыі, у якіх ахарактарызавалі прэзідэнта Расеі Барыса Ельцына і сілавых міністраў Грачова, Ерына, Сьцяпашына як злачынцаў і запатрабавалі тэрміновай адстаўкі.

### УФА

Крытычна адазваўся аб дзеяньнях расейскіх уладаў у Чачні прэзідэнт Башкірыі Муртаза Рахімаў. "Не такая страшная мафія чачэнская, як мафія маскоўская, усе гэтыя карумпаваныя чыноўнікі ды генералы. Ці не была вайна ў Чачні задумана дзеля таго, каб адцягнуць увагу народа ад надзённых праблемаў?" - заявіў М.Рахімаў у інтэрв'ю Башкірскаму тэлебачаньню. Па словах кіраўніка Башкірыі, пасьля сустрэчы ў Чэбаксарах першых асоб сямі аўтаномных рэспублік у складзе Расеі, усе яны былі выкліканы да прэзідэнта Барыса Ельцына, які "высьвятляў, ці не рыхтуюць яны змову, каб зьвергнуць яго законную ўладу".

### МАСКВА

23 студзеня ў Хамоўніцкім муніцыпальным судзе адбылося судзебнае паседжаньне па справе аб адміністратыўным праварушэньні ў сувязі з удзелам сяброў праваахоўных арганізацый у вахце пратэсту супраць вайны ў Чачні. Усяго да судовай адказнасьці прыцягнутыя 11 сяброў маскоўскага таварыства "Мэмарыял", якія абвінавачваюцца па арт.166 - прым. Кодэксу аб адміністратыўных праварушэньнях РФ. Усе яны прымалі ўдзел у акцыі, што прайшла 10 студзеня ля будынку пасольства Італіі ў Расеі. Яны былі затрыманыя пасьля таго, як перадалі ў пасольства Зварот шэрагу праваахоўных арганізацыяў з заклікам да ўрада і грамадзкасьці Італіі садзейнічаць скканчэньню краваправіцца ў Чачні.

**"Э-Х"**

# ЯК ПАЛЮХОВІЧ КАРОНЫ ДЗЯЛІЎ

У Менску, між іншым, адбылася каранацыя, і карону ўсклалі пакуль што не на сьвятлейшую галаву Вялікага Князя, улада магутнай і шчаслівай дзяржавы. У Альтэрнатыўным тэатры фірма "Дайнова" вырашыла каранаваць лепшых рок-музыкантаў краіны. Тыя былі не супраць, і з задавальненьнем падстаўлялі свае галовы, калі гэта патрабавалася па рэгламенту сьвята.

Першым шчасьлівым уладальнікам гэтага нязвыклага ў наш час галаўнога ўбору стаў гурт "Палац" (намінацыя "Традыцыі і сучаснасьць"). Але ўладарыў "Палац" нядоўга. Бо ў "Крамы" зьявіліся пэўныя думкі наконт рок-алімпу і неўзабаве Ігар Варашкевіч, заплюшчыўшы ад задавальненьня вочы, спазнаў "вкус победы". "Крама" - лепшая ў намінацыі "Выканаўца года". Узгадаўшы лепшыя традыцыі часоў Перабудовы, пераможцу ў намінацыі "Песьня году" было вырашана абвясьціць шляхам альтэрнатыўнага вызначэньня. Тут змагаліся тры волаты беларускага року: "Крама" з песьняй "Канада", "Палац" са сваёй "Стралой" і "Новае неба" з песьняй "Той, хто стаіць у мяне за плячыма". Гледачы пасьля кожнай песьні пляскалі ў ладкі ды парушалі грамадзкі парадак, бо моцна сьвісталі, а шумамер зашкальваў увесь час. Усё ж такі, Кася Камоцкая карону з надпісам "Дайнова" захапіла ў свае рукі (дакладней атрымала на сваю галаву). Такім чынам "Новае неба" - выканаўца "Песьні года". Маладыя хлопцы з гурта "Why not" не разгубіліся ў кампаніі такіх дыназаўраў беларускага року і вырвалі ў дырэктара "Дайновы" Адама Палюховіча чарговую карону ды ўсклалі на галаву свайго вакаліста. Даводзілася прызнаць іх пераможцамі ў намінацыі "Дэбют года". Яшчэ адну карону за лепшы альбом года рушыла атрымліваць Кася Камоцкая. Пакуль у залі разгублена разважалі, навошта Касі дзьве кароны, калі ў яе адна галава, ускладаньне адбылося. "Сон у трамваі" - альбом "Новага неба" - лепшы. А самую найвялікшую карону ("Гран-пры"), у якую, як казалі потым музыкі, уваходзіць ня так ужо й мала шампанскага ды й іншых смачных ды горкіх напояў, атрымала славутая "Крама": і гэта правільна, бо мы, як і ўвесь беларускі народ, "Адным словам, той, хто там быў, шмат што пачуў і пабачыў, а камусьці яшчэ і пашчасьціла выпіць з музыканьцікамі, калі тыя вырашылі, на што яшчэ прыдатныя кароны, акрамя таго, што іх можна насіць на галаве.

Адам Палюховіч, наглядзеўшыся на ўсё гэта, у другой частцы імпрэзы, выйшаў на сцэну і прасьпяваў выдатную песьню, акампануючы сабе на гітары. За што і атрымаў карону і дыплом як ганаровы рок-музыкант дзяржавы.

**С.К.**

## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

### РАЗБОІ

Гадавіна сьмерці правадара сусьветнага пралетарыяту адзначана на Гарадзеншчыне шэрагам разбойных нападаў.

Спачатку ў Лідзе, каля 10 гадзін раніцы, трое ў масках уварваліся ў кватэру 32-гадовай лідчанкі і пагражаючы пісталетам звязалі гаспадыню.

У выніку здабычай "масак" стала некалькі каштоўных рэчаў пацярпелай.

* * *

Амаль у гэты ж час падобнае злачынства было ўчынена ў Горадні.

Злачынец, зноў жа ў масцы, толькі не панчошнай, а з вязанай шапачкі, зайшоў у краму "Лілея" па вуліцы Савецкай і пагражаючы рэвальверам патрабаваў у дырэктара "ключ ад каморы".

Камерсант аказаўся зух. У выніку бойкі злачынец параніў камерсанта, але й сам з ганьбай пакінуў "поле бою", аставіўшы на месцы здарэньня ўвесь свой арсенал - гранату, перароблены пад пісталет газавік, нож, маску і вялікую квяцістую кайстру.

* * *

Вечарам таго ж дня гучна заявілі аб сабе ўзброеныя "кідалы". У лесе за пасёлкам Фабрычны "гоп-квартэт" жорстка "пракінуў" уладальніка шыкоўнага БМВ, гаспадар застаўся без колаў.

### ВЫМАГАЛЬНІЦТВА

У апошні час у Горадні назіраецца не зусім зразумелая з'ява. Усё часьцей мясцовыя "ракетчыкі" пераключаюць сваю ўвагу з камерсантаў ды навучэнцаў.

Вось і на гэты раз рознакаляровая тройка ўключыла "лічыльнік" для сямікласьніка СШ N 25.

Пасьля міліцэйскай аперацыі два студэнты ВНУ і навучэнец ПТВ будуць лічыць на казённай паліцы не даляры, а дні да выйсьця на волю.

### ЗБРОЯ

Калі ў дзяржаўнай частцы Слонімскага ГРАус больш пільна прыгледзеліся да кішэняў дробнага хулігана, які быў дастаўлены на пастарунак, то былі моцна здзіўленыя: 47 гадовы "хуліган" меў пры сябе "Наган" з поўным боекамплектам.

### НЯШЧАСЬЦІ

Паведамленьне са Смаргоні яшчэ раз пасьведчыла, што знаходжаньне ў гаражы легкавіка з працуючым рухавіком тоіць у сябе небясьпеку для жыцьця. На жаль, гэтую меру перасьцярогі не выканаў 39 гадовы інжынер станцыі тэхабслугі.

### ПАЖАРЫ

Яшчэ адно няшчасьце ў гэты дзень і зноў жа на Смаргоншчыне, адбылося ў вёсцы Клідзяняты. Там у выніку пажару згарэў дом пенсіянеркі, у якім знаходзілася гадавалае дзіця.

**У.Даніловіч**

*БРЫФІНГ*

## АБСТАНОЎКА СКЛАДАНАЯ, АЛЕ КАНТРАЛЮЕЦЦА

У вабласным Упраўленьні ўнутраных спраў Горадні адбыўся брыфінг для журналістаў.

Найбольш прадстаўнікоў сродкаў масмедыя цікавіў рост такіх відаў злачынстваў, як забойствы, гвалты, разбоі, зарганізаваная злачыннасьць. Таму начальніку УУС спадару Белашэўскаму давялося даць падрабязную інфармацыю аб росьце злачыннасьці, яе раскрыцьці супрацоўнікамі міліцыі. Лічбы, а іх палкоўнік Белашэўскі прывёў нямала, нясуцяшальныя. Фактычна, кожнае чацьвёртае цяжкае злачынства нераскрываецца. Да таго ж дынаміка росту некаторых відаў злачынстваў перавысіла ў іх у параўнаньні з мінулымі гадамі больш як 10%.

Міліцыянтам цяжка, бо толькі зараз на ўзроўні РАУС пачаліся рэформы. Праўда яны ня значныя, але відавочна, што, калі ісьці менавіта шляхам рэформаў удасканальваць працу можна пасьпяхова весьці барацьбу са злачынным элементам, які па словах таго ж спадара Белашэўскага робіцца больш нахабным, жорсткім, агрэсіўным, зарганізаваным.

Шмат працы давядзецца выканаць вабласному УУС, каб адпавядаць патрэбам, сюды можна занесьці і распачатае стварэньне міліцэйскіх участкаў па мадэлі ЗША і будаўніцтва новых базаў-вучэльняў для падрыхтоўкі шэраговага складу, якія, дарэчы, ужо складоюцца ў Горадні. Таксама прыдзецца выдаткаваць восем мільярдаў рублёў для ўзьвядзеньня жыльля для міліцыянтаў. А пакуль што прафесія міліцыянта не самая папулярная. У параўнаньні з Нямеччынай, дзе на 1000 жыхароў прыходзіцца аж чатыры паліцыянты ў сувярэннай Беларусі маецца два няпоўных пінкертоны.

**Г.Белашэвец**

## ОФІС ЗА 1750 МІЛЬЁНАЎ

Новы корпус ВА "Хваля", на ўзвядзеньне якога былі ўкладзены немалыя ў свой час сродкі, прадаецца "з малатка". Папярэдне планавалася разгарнуць выпуск субпрадукцыі, абсталяваць адміністратыўна-бытавыя памяшканьні. Напярэдадні 1995 года корпус быў гатовы адчыніць дзьверы перад гаспадарамі-навасёламі. Але ж канверсія, эканамічны крызіс перайшлі ім дарогу. Багатага пакупніка не прыйшлося доўга чакаць. Пяціпавярховую будыніну плошчай 4320 кв.м аблюбаваў мясцовы "Прамбудбанк". Пры пасьпяховым падпісаньні папер, тут, магчыма, узьнікне своеасаблівы фінансавы вузел, які будзе абслугоўваць шматлікія вытворчыя прадпрыемствы. Сума ж, на якой зышліся - 1 млрд 750 млн., яе хопіць ВА "Хвалі" толькі на тое, каб разьлічыцца з крэдыторамі.

**Алена ТУСЕВІЧ.**

## «НЁМАН» НАБІРАЕ АЧКІ

Дзьве гульні запар правеў у горадзе Ухта супраць мясцовага "Тэхнолага" у адкрытым чэмпіянаце Расеі гарадзенскі "Нёман". Нашы хлопцы ў першай гульні саступілі, лік 2:3, а ў паўторнай гульні ўзялі рэванш 5:4.

Наступныя гульні "Нёман" згуляе аж 7-8 лютага. На сваёй пляцоўцы гарадзенцы прымаюць каманду "Гарняк".

Нерадуюць сваіх паклоньнікаў у рэгулярным сэзоне МХЛ гульцы сталічнай "Цівалі".

Цівалята пацярпелі тры паражэньні запар, ад "Крышталю" з Электрасталі 3:1, "Тарпеда" Ніжні Ноўгарад 2:0 і "Дынама" Масква 4:3.

**Г.Нёман**

## ДВА АЧКІ ДЛЯ «ПАГОНІ»

У суботу "Пагоня" саступіла "Бункеру" з лікам 1:2. Вельмі неасцярожна згуляў А.Калошыц. Затое ў нядзелю перамагла каманду "Інспэ". Лік сустрэчы 2:1.

**М.Белакоз**

## ПРОЙГРЫШ У ГАЎРЫ

Нуль-адзін, такі вынік гульні нацыянальнай зборнай Беларусі ў таварыскай сустрэчы супраць зборнай клубаў Францыі.

За нашу зборную выступіў абаронца гарадзенскага "Нёману" Сяргей Гурэнка.

**Г.Васілевіч**

**Актывісты патрыятычнага руху Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў Гарадзеншчыны глыбока смуткуюць і выказваюць спачуваньні старшыні БЗВ Міколе Статкевічу з выпадку заўчаснай сьмерці маці.**

**Сябры і прыхільнікі Гарадзенскай суполкі Беларускага Народнага фронту "Адраджэньне" выказваюць спачуваньні сябру партыі Беларускага Народнага фронту Алесю Башко ў сувязі з горам, сьмерцю цёткі.**



## У ДЭМАКРАТЫЧНЫМ АБ'ЯДНАНЬНІ ВЕТЭРАНАЎ Г.ГОРАДНІ

Паведамляем: офіс Дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў г.Горадні знаходзіцца па вуліцы Савецкай у доме 31, пакой 12.Тэлефон 47-12-83.

Як ужо перадавалася, наша згуртаваньне аб'ядноўвае ветэранаў працы, вайны, Узброеных Сіл, вязьняў палітычных рэпрэсій незалежна ад нацыянальнасьці.

Асноўныя мэты дзейнасьці ДАВ: абарона грамадзкіх, палітычных і сацыяльных правоў ветэранаў і асоб пенсіённага ўзросту, адраджэньне духоўнасьці, народных традыцый,абрадаў і сьвят, здаровых пачаткаў жыцьця, аднаўленьня гістарычнай памяці нашага народа, ахова помнікаў культуры, умацаваньне суверэнітэту РБ, падтрымка дзяржаўнасьці беларускавй мовы і нацыянальнай сімволікі, удзел у выхаваньні моладзі.

Зьвяртайцеся да нас. Мы аказваем сябрам згуртаваньня маральную і па магчымасці матэрыяльную дапамогу.

У офісе вы можаце атрымаць Статут Дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў г.Горадня, праграмную заяву і зарэгістравацца.

Запрашаем у наш офіс для размовы па ўсіх пытаннях, якія Вас цікавяць: са старшынёй Рады - у сераду з 15 да 18 гадзін, з сябрамі Рады - у аўторак з 11 да 13 гадзін, у чацьвер з 15 да 18 гадзін, у пятніцу з 15 да 18 гадзін.

Наш юрыст чакае Вас у першую і трэцюю пятніцу кожнага месяца з 18 да 19 гадзін.

Ветэраны Гарадзенскай вобласьці, калі Вы падзяляеце нашыя пераканаьні, утварайце па месцу жыхарства суполкі ДАВ.Прапановы і спіс сяброў ДАВ дасылайце на адрас: 230027, г.Горадня, вул.Савецкая, дом 31,пакой 12.

Даведкі можна атрымаць па тэлефону 47-12-83.

**Рада Дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў г.Гродна**

**"ПАГОНЯ"**
**Рэдактар М.МАРКЕВІЧ.**
**Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".**
**Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.**
**Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.**
**Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.**
**Пры перадруку спасылка абавязкова.**
**Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест разьмешчанай у газеце рэкламы.**
**Індэкс 63124.**
**Фотанабор, афсетны друк.**
**Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.**
Заказ 368.
Наклад 10037 паасобнікаў.